Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# У ДАПАМОГУ ПАРТВУЧОБЕ

## БЮЛЕТЭНЬ
## АПАД ЦК і МЕНАКА КП(б)Б

ВЕРАСЕНЬ

№ 10

ВЫДАНЬНЕ ЦК КП(б)Б
МЕНСК — 1929

*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*




# У ДАПАМОГУ ПАРТВУЧОБЕ

## БЮЛЕТЭНЬ АПАД ЦК і МЕНАКА КП(б)Б

ВЕРАСЕНЬ

№ 10



ВЫДАНЬНЕ ЦК КП(б)Б
МЕНСК 1929

# Арганізацыя і мэтодыка партасьветы.

## Праверыць падрыхтоўку партасьветы.

Пытаньні падрыхтоўкі партвучобы ў выстарчальнай меры абгаварваліся рознымі партыйнымі органамі, асабліва вышэйшымі.

Вясной гэтага году адбылася ўсесаюзная нарада па партасьвеце і ўсебеларуская агітпропнарада, на якіх пытаньні партасьветы займалі значнае месца.

Пытаньні партасьветы абгаварваліся ў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б. Былі прыняты даволі падрабязныя рэзалюцыі, якія вызначаюць поўнасьцю задачы разгортваньня партвучобы.

У іх даецца ясная ідэалёгічная ўстаноўка, абмяркоўваецца зьмест партвучобы; згодна гэтых рэзалюцый задачай партвучобы зьяўляецца ня толькі ўзьняцьцё тэарэтычнага ўзроўню партыйных мас, але даецца канкрэтная дырэктыва аб прывучэньні праз сыстэму партвучобы да практычнай работы, аб найбольш поўнай сувязі тэорыі з практыкай, аб ролі школы і гуртку ў арганізацыі гэтай практычнай работы навучаючыхся.

У рэзалюцыях таксама зьвяртаецца досыць увагі на стварэньне ўмоў па разгортваньню партвучобы: адначасовае кампліктаваньне ўсей сеткі (школьнай і самаадукацыйнай, партыйнай і агульна-адукацыйнай), забясьпечаньне прапагандыстымі, падручнікамі і г. д.

Як першапачатковая задача ставіцца ў гэтых рэзалюцыях правядзеньне шырокай растлумачальнай работы сярод партыйных мас і самых шырокіх мас беспартыйных рабочых, работніц, батрацтва і беднаты аб формах і мэтадах партвучобы.

Пытаньні партвучобы абгаварваліся таксама ў акругах і мы маем ня мала вестак аб тым, што на мясцох ў даны час разгортваецца,—праўда ня ўсюды з аднальковым тэмпам,— лепш у Бабруйску і Гомелю, у іншых акругах горш,—шырокая падрыхтоўчая праца да новага навучальнага году. Па тых-жа зьвестках можна меркаваць аб якасьці ўсей гэтай падрыхтоўчай працы. Ні ў якім разе гэту якасьць нельга прызнаць здавальняючай;

Растлумачальная работа вядзецца, але ў многіх выпадках няма індывідуальнага падыходу да вярбоўкі кожнага партыйца ці беспартыйнага на вучобу. Не выяўляецца як

належыць быць яго падрыхтоўка, яго зацікаўленасьць, умовы яго жыцьця і працы, каб на падставе выяўленьня ўсіх гэтых умоў дапамагчы яму зрабіць сапраўды сьвядомы выбар формы сваёй вучобы.

У летні час ва ўсіх акругах праводзіліся курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы прапагандыстых. У выніку гэтага павялічылася колькасьць прапагандыстых, узрос іх тэорэтычны ўзровень, падкаваліся яны крыху і з мэтодычнага боку. Але гэтага мала.

Мы шмат гаварылі аб тым, што наша партшкола, наша партвучоба наогул павінна быць жыцьцёвай; марксыцка-ленінская тэорыя павінна быць зьвязана з практычным жыцьцём, з практычнай працай. Наша партвучоба павінна дапамагчы ў вырашэньні практычных задач партыі. „Партвучоба на службу вырашэньня практычных задач партыі"—вось наш лёзунг.

Мала хто будзе спрачацца з тым, што трэба будаваць усю нашу нашу партвучобу на базе практычнай працы. Але ня ўсе могуць гэта рабіць. Мала было часу на курсах, каб дасканала прапрацаваць гэтае пытаньне. Увязка ўсей вучобы з практычным жыцьцём магчыма толькі пры ўмове штодзённай, сыстэматычнай падрыхтоўкі прапагандыстага, $^1/_3$ часу навучальнага пляну ўдзяляецца практычнай рабоце школы. Школа можа і павінна стаць фактычным арганізатарам пад кіраўніцтвам партячэек і партарганізацый, усей практычнай работы партыі: правядзеньня розных кампаній, барацьбы с бюракратызмам ў апараце, за сацыялістычнае спаборніцтва і г. д.

Але да гэтага павінны быць перш за ўсё падрыхтаваны прапагандыстыя. Ні адна нарада прапагандыстых павінна быць склікана для прапрацоўкі ўсіх пытаньняў, а цэлы шэраг нарад павінны быць скліканы па асабным пытаньням.

У навучальны плян школы павінна быць асобна ўстаўлена практычная праца вучняў (удзел у перавыбарах саветаў, каапэрацыі, ф-з-к, абгаварэньне колдогавару і. г. д.) як гэта будзе увязана з тэорэтычнымі дысцыплінямі і якая тут роля школы.

Узьнікнуць цэлы шэраг мэтадычных і іншых пытаньняў, якія павінны вывучацца ў працягу ўсяго навучальнага году, але *пачаць* іх вывучэньне неабходна яшчэ *да* пачатку навучальнага году.

Рэзолюцый у нас хапае, і ня дрэнныя, але справа ў іх зьдзяйсьненьні.

Парторганізацыі павінны самым энэргічным чынам узяцца за праверку выкананьня гэтых рэзалюцый: як праводзіцца камплектаваньне сеткі партвучобы, ці вярбуецца ў сетку партасьветы адпаведны лік беспартыйных рабочых, работніц, калгасьнікаў, беднаты, ці шырока папулярызуецца парт-

вучоба, ці забясьпечаны школы і гурткі прапагандыстымі, ці мэтазгодна скарыстаюцца перападрыхтаваныя і падрыхтованыя ў летні час, ці зьвернута досыць увагі арганізацыі самаадукацыйнай работы завочнаму навучаньню (у прыватнасьці камплектаваньню завочнага Комунівэрсытэту і ўсебеларускай завочнай СПШ. Ці забясьпечваецца марксыцка-ленінская вытрыманасьць партвучобы і поўная ўвязка з практычнай працай.

Павінны быць праверaны ўсе ўмовы, ад якіх у той ці другой ступені залежыць бесьперабойная, добраякасная работа сеткі партвучобы.

Ад гэтай праверкі ў значнай ступені залежыць лёс партасьветы на наступны год.

Гольдзін.

---

## Трэба наладзіць сыстэматычную падрыхтоўку прапагандыстых.

Праца прапагандысцкіх сэмінараў мінулага году, па заяве амаль усіх акруг, праваліпася. Асабліва дрэнна была справа з рабочымі прапагандыстымі, у выніку чаго „заняткі праводзіліся мэтадычна няправільна“, альбо „нават бывалі выпадкі поўнага скажэньня зьместу матар'ялу“ (з рэзалюцыі бюро Менск. АК КПБ).

Тлумачыцца гэткае зьявішча тым, што падбор таварышоў дзеля пасылкі іх на курсы рабочых прапагандыстых праходзіў без выстарчальнай увагі з боку партячэек, што самі па сабе курсы былі кароткатэрміновыя і, нарэшце, тым, што з боку АК няма адпаведнага кіраўніцтва гэтымі таварышамі на працягу ўсяго году. Што-ж датычыцца прапагандыстых не-рабочых з прадпрыемстваў у нас справа знаходзіцца ў такім становішчы, што штогодна гэтыя прапагандыстыя мяняюць месца сваёй працы. У нас яшчэ няма гэткага зьявішча, каб вылучаны прапагандысты працавалі на адным прадпрыемстве некалькі год, у выніку чаго прапагандысты адарван ад умоў жыцьця сваіх слухачоў і пры ўсей сваей падрыхтаванасьці мае малую магчымасьць, як кажуць „зачапіць за жывое“ сваіх слухачоў на падставе мясцовага матар'ялу і заняткі ня маюць таго эфэкту, які нам патрэбен.

З усяго гэтага відаць, што трэба ўжыць шэраг мерапрыемстваў, яшчэ трэба да пачатку заняткаў дзеля забясьпечаньня лепшай якасьці пастаноўкі работы ў школе, а менавіта:

Трэба яшчэ раз пераглядзець разьмеркаваньне складу ўсіх прапагандыстых з тым, каб пакінуць тых таварышоў, якія ў мінулым годзе працавалі на старых прадпрыемствах (зразумела, тады, калі данае прадпрыемства ня здолела

з свайго складу падрыхтаваць кадра прапагандыстых). Трэба зараз-жа скласьці сэмінары як для рабочых прапагандыстых, таксама і для рэшты прапагандыстых і распачаць з імі работу.

Зьмест работы гэтых сэмінараў адрозьніваецца тым, што для рабочых прапагандыстых дзеля падрыхтоўкі адводзіцца ў тыдзень 8 гадзін з тым, каб таварышы змаглі 5 гадзін адвесьці дзеля падрыхтоўкі па зьместу тэмы, а 3 гадзіны па мэтодыцы работы с дарослым слухачом, астатнім-жа прапагандыстым адводзіцца толькі 3 г. у тыдзень для мэтадычнай падрыхтоўкі з тым, каб падрыхтоўка па зьместу праводзілася імі ў сябе на даму.

Праграма заняткаў сэмінараў гэтага году павінна ўключыць усе тыя пункты, якія былі ня выкананы ў мінулым годзе: узорныя заняткі і іх разбор, наведваньне прапагандыстымі заняткаў (практычных) вылучанага таварыша і разгляд яго, пасобныя абагуленыя даклады-кансультацыі па пасобных тэмах, асабліва па гэткіх, дзе няма згрупаванага матар'ялу і падручнікаў, напрыклад, па нацпытаньню, па рацыяналізацыі вытворчасьці, калектывізацыі сельскае гаспадаркі і інш. Асаблівае месца павінна быць адведзена ў занятках сэмінараў на прапрацоўку пытаньняў практычнага ўдзелу слухачоў у праводзімых кампаніях.

Праграма заняткаў павінна быць складзена зараз-жа з тым, каб яна магла быць абгаворана на сходах прапагандыстых да пачатку навучальнага году. Павінен быць наладжан памен думкамі і практыкай у гэтым напрамку як унутры акруг праз нарады прапагандыстых так і па Беларусі праз друк. Не малое месца гэтаму пытаньню павінна быць адведзена на старонках часопісу „У дапамогу партвучобе“, які павінен стаць сапраўдным дапаможнікам прапагандысту ў яго працы. Нарэшце, семінары павінен весьці працу па выпрацоўцы ў яго ўдзельнікаў тэй вялікай адказнасьці, якую ён нясе, як выхаванец мас у ленінска-марксысцкім духу, чаго да гэтага часу шэраг таварышоў прапагандыстых, асабліва з прымацаванных, яшчэ не адчувае.

Толькі пры гэтакай пастаноўцы работы мэтодычнага сэмінара пры дастатковым удзеле з боку АК і мэтадычнага бюро кіраўніцтва ім магчыма будзе спадзявацца, што матар'ял, які будзе разглядацца слухачамі паводле праграмы будзе вытрыманы як з боку зьместу так і з боку мэтадычнай формы і выкліча большую зацікаўленасьць з боку слухачоў да наведваньня заняткаў.

П. В.

---

## Аб чым гаворыць вопыт работы завочнай СПШ.

Усебеларуская Завочная Савпартшкола існуе другі год. Вынікі першага году нязначныя. У гэтым годзе былі зьменены формы працы. Вынікі гэтага году гавораць за тое, што форма завочнага навучаньня мае пад сабой грунт і можа заняць адпаведнае месца ў сыстэме партыйнай асьветы.

У школу было залічана 180 асоб. Займаліся 75. Улічваючы працант адсеву, які наогул маецца ў завочных навучальных установах, гэту колькасьць можна лічыць, як значную перамогу.

Апошняя нарада завочных партшкол і Кам. ВНУ, а таксама АПАД ЦК УсеКП(б) адзначылі, што завочнае навучаньне павінна быць аднэй з асноўных форм па падрыхтоўцы актыву.

З ліку працуючых ва Ўсебеларускай завочнай савпартшколе больш 70%—гэта галоўным чынам вясковы, партыйны і савецкі актыў і частка актыву з вытворчых ячэек.

Па соцыяльнаму становішчу мы маем 52% сялян, 33% рабочых і батракоў, 15% іншых.

Чым тлумачыцца адсеў і слабое выкананьне заданьняў Якія ўмовы гэтаму перашкаджаюць. Па-першае, трэба адкінуць думку аб тым, быццам няма зацікаўленасьці да гэтай формы вучобы. Шмат лістоў, якія дасылаюцца курсантамі ў школу ў адзін голас заяўляюць, што жадаем працаваць, заданьні выканаем, але цяпер ня можам, бо перагружаны. У даным выпадку гэта віна мясцовых парторганізацый. Да таго часу, пакуль ня будзе забясьпечаны час для заняткаў, гэта праца будзе кульгаць.

З боку завочнай СПШ была зьвернута асаблівая ўвага на вучот. Сачылі за выкананьнем у прызначаны тэрмін заданьняў. Дасылалі сваечасова лісты-напамінкі, якія запытвалі курсанта аб прычынах, па якім ён ня выканаў сваёй працы.

Для вопыту, наша школа склікала першую тыднёвую канфэрэнцыю завочнікаў. Усе курсанты, удзельнікі конфэрэнцыі, адзначылі, што спачатку ў іх былі сумненьні, ці ня будзе гэта аднэй з форм „самаабману". У працягу-ж працы яны пераканаліся ў адваротным,—што гэта адна з сталых форм вучобы, адзначылі павялічэньне сваіх ведаў.

На першую конфэрэнцю былі выкліканы 45 чал. Прыехала 24 чал. Рэшту парторганізацыі затрымалі.

Праведзеная конфэрэнцыя яскрава падкрэсьліла іх неабходнасьць і карыснасьць. Курсанты паглыбілі свае веды і пад'агульвалі сваю самастойную працу. Але часу, адведзенага для конфэрэнцыі, было недастаткова. На далей такія конфэрэнцыі павінны быць месячныя.

На конфэрэнцыі адзначалася, што пераважная частка партыйных камітэтаў не трымала сувязі з вочнікамі, нічым ім не дапамагала.

Не хапае таксама падручнікаў. На мясцох не даецца ніякай мэтадычнай дапамогі. У раёнах маюцца райпрапагандыстыя, якія пры адпаведных указаньнях Райкомаў могуць дапамагаць у працы завочнікам. Трэба ў акругах склікаць конфэрэнцыі завочнікаў. Трэба забясьпечыць часткова падручнікамі за свой кошт, часткова—за кошт парторганізацыі.

Да наступнага навучальнага году ў школу будзе праведзен новы набор у ліку 200 чал. Для пасьпяховасьці яго правядзеньня на мясцох, трэба шырока растлумачыць умовы прыёму, падабраць адпаведны склад. Значную ўвагу патрэбна зьвярнуць на тое, каб камандзіруемыя мелі агульную адукацыю. Без агульнай пісьменнасьці, уменьня добра пісаць і элементарных ведаў арытмэтыкі працаваць у завочнай школе немагчыма.

Набор курсантаў трэба закончыць у бліжэйшы час, каб з верасьня месяца сваечасова пачаць навучальны год і нармальна яго правесьці. У гэтым годзе камплектаваньне зацягнулася да студзеня м-ца, у сувязі з чым прышлося паменшыць вызначаную праграму на гэты год. Гэта дасьць магчымасьць у вызначаны тэрмін навучальнага пляну зрабіць першы выпуск школы.

**Мельцэр.**

---

## У паход за рэвалюцыйную тэорыю!

Наша краіна ўступіла ў новую паласу—у рэканструкцыйны пэрыод, які (рэканструкцыйны пэрыод) патрабуе падрыхтоўкі кадраў на самых разнастойных вучастках соцыялістычнага будаўніцтва.

Выкананьне пяцігодкі патрабуе перавыхаваньня шырокіх пластоў працоўных, у першую чаргу моладзі, перавыхаваньня чалавека, адпавядаючага рэконструктыйнаму пэрыоду, масавага нараджэньня комуністычнай сьвядомасьці.

Абвастрэньне клясавай барацьбы за моладзь, задачы ўцягненьня шырокіх колаў комсамольцаў і працоўнай моладзі ў практычны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве, актыўны ўдзел у барацьбе за чоткую ленінскую лінію партыі і комсамолу—перамогі рэшткаў контррэволюцыйнага троцкізму і глыбока ідэёвай работы па перамозе правага ўхілу і прымірэнцтва, як галоўнай небясьпекі на даным этапе,—патрабуе ад усіх комсамольцаў і ў першую чаргу актыву настойлівай працы над падвышэньнем свайго тэорэтычнага ўзроўню, падвышэньня ведаў—марксызму-ленінізму, падвышэньня сваёй клясавай баяздольнасьці.

Нам патрэбны людзі, дзеяньні якіх падпарадкаваны ленінскай устаноўцы—навучаючыся—будуй, будуючы—вучыся.

Між тым, мы з ўсёй відочнасьцю наглядаем зараз у комсамоле небясьпеку разрыву паміж запатрабаваньнямі, якія прад'яўляе жыцьцё і комсамольская маса, і тэорытычнай падкоўкай комсамольскага актыву.

Вурокі межынскай справы паказваюць (акрамя ўсяго іншага), як дорага часам прыходзіцца плаціць актывістым за недахоп тэорытычных ведаў, калі няма ўменьня абагуліць вопыт клясавай барацьбы, калі няма ведаў асноў політыкі партыі. Нават пры добрасумленнай рабоце такі актывісты працуе сьлепа, выконвае дырэктывы мэханічна, скатваецца да беспэрспэктыўнасьці, вузкалобага дзяляцтва. Такі актывісты не зьяўляецца ідэёвым барацьбітом з адхіленьнямі ад генэральнай лініі партыі.

Становішча політадукацыі мінулых гадоў было яўна нездавальняючым, і таму зусім невыпадкова мы сустракаліся з фактамі непаразуменьня элемэнтарных асноў політыкі партыі. Зусім невыпадковымі зьяўляюцца такія прыкладна адказы, што УсеКСМ - гэта „ўсесаюзная ленінская сялянская савецкая моладзь". (Сябра КСМ з 1925 году). А на запытаньне: ці ёсьць яшчэ адзін КІМ (маецца на ўвазе капіталістычны інтэрнацыянал моладзі)—такі адказ: „Ёсьць: адзін ў Маскве, другі ў мяне на грудзёх". Бязумоўна, такія моманты нельга аднесьці да ўсіх комсамольцаў, але яны шмат аб чым гавораць.

Некаторыя актывістыя яўна недаацэньваюць неабходнасьць набыцьця рэволюцыйнай тэорыі. Мы чулі такую заяву аднаго актывістага: „нам няма калі займацца пытаньнем тэорытычнай вучобы. Мы зараз праводзім прамысловы паход і паход за ўраджай". Гэты адказ найлепш сьведчыць, што апрача недаацэнкі ёсьць і непаразуменьні сутнасьці клясавага выхаваньня, што нам патрэбна рэволюцыйная тэорыя, якая-б штурхала рэволюцыйную практыку, што нам патрэбна рэволюцыйная практыка, якую-б абагульвала рэволюцыйная тэорыя.

Таму зараз, як ніколі, паўстае задача—стварыць масавы рух за вывучэньне рэволюцыйнай тэорыі ў комсамоле, але ці зводзіцца справа да таго, каб, пачынаючы масавы паход за рэволюцыйную тэорыю, абмежавацца толькі вывучэньнем твораў Маркса—Леніна, політадукацыяй? Вывучэньне рэволюцыйнай тэорыі ні ў якім разе не супрацістаўляе і не выключае неабходнасьць агульна-адукацыйнай вучобы. Ня можа быць такога становішча, каб адны абмяжоўваліся толькі вывучэньнем матэматыкі, тэхнікі, а другія марксызму і ленінізму.

Мы выступаем у вялікі паход за ведамі ў галіне політычных, тэхнічных і агульна-адукацыйных навук. Пасьпяховасьць паходу залежыць ад таго: па-першае, як будзе ўзь-

ўзьняты сапраўдны масавы рух за вывучэньне рэвалюцыйнай тэорыі. Па-другое, як пойдуць насустрач навуковыя, тэхнічныя і партыйна-пропагандысцкія сілы. Мы патрабуем конкрэтнай дапамогі з боку профэсароў, грамадзкіх організацый (профсаюзаў і інш.) у нашым паходзе за тэорыяй. Няхай тэорытычныя сілы партыі (Комвуз, савпартшколы і інш.) возьмуць на сябе абучэньне кадраў актыву—кіраўнікоў тэорытычнага руху.

Разгортваньне тэорытычнага руху павінна быць справай ня толькі агітпропаў, але і справа ўсіх камітэтаў, ячэек— гэта неабходна запамятаць комсамольскаму кіраўніцтву.

Мы зараз прыступаем да новага навучальнага году. У нас ёсьць формы вучобы (палітшколы, савпартшколы, курсы, гурткі самаадукацыі і інш.), але-ж пачынаючы завочную конфэрэнцыю на старонках „Чырвонай Зьмены", нам патрэбна непасрэдны ўдзел усёй масы з адказам на пытаньне, як лепш і як правільней організаваць тэорытычны рух, якія формы лепш скарыстаць. *Пасьпяховасьць разгортваньня тэорытычнага руху залежыць ад непасрэднага ўдзелу самой масы,* а таму, таварышы комсамольцы і працоўная моладзь, чакаем ад вас парад. Мы зьвяртаемся таксама і да ўсіх навуковых, тэхнічных, партыйна-прапагадысцкіх сіл прыняць непасрэдны ўдзел у завочнай конфэрэнцыі і дапамозе ў організацыі тэорытычнага руху.

**Шаломаў.**

---

# Агітацыйна-масавая работа.

## Задачы нашага сацыялістычнага будаўніцтва і агітацыйна-масавая работа.

Пяцігадовы плян вялікіх работ па сацыялістычнаму будаўніцтву з нябачнымі ў гісторыі тэмпамі разьвіцьця народнае гаспадаркі ва ўмовах капіталістычнага абкружэньня СССР—зьяўляецца плянам магутнага наступленьня пралетарыяту, на рэшткі капіталістычных элемэнтаў гораду і вёскі, плянам шырокай масавай перапрацоўкі на сацыялістычных асновах бядняцка-серадняцкіх гаспадарак на грунце калектывізацыі і вытворчага каапэраваньня.

Выкананьне пяцігадоваа пляну мажліва нават з перавышэньнем, як гэта паказаў бягучы гаспадарчы год—„пры ўмове вялізарнага напружаньня высілкаў і шырачэзнай мабілізацыі сіл пралетарыяту і тэхнічных кадраў і ўсёй савецкай інтэлігэнцыі, мабілізацыі бядняцка-серадняцкіх колаў сялянства, згуртаваньня іх пад кіраўніцтвам пралетарыяту для барацьбы з кулаком“ (з дакладу Рыкава на XVI партканфэрэнцыі). Асноўным кіраўніком усяго сацыялістычнага будаўніцтва была і будзе партыя. Галоўнай умовай посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца далейшае ўзмацненьне ва ўсім гэтым будаўніцтве кіруючай ролі партыі. Але гэтага яшчэ мала. Узмацняючы кіруючую ролю партыі, неабходна дабіцца, каб у сацыялістычным будаўніцтве прымалі актыўны ўдзел шырокія колы рабочых і беднаты і серадняцтва вёскі. З кожным крокам нашага прасуваньня ўперад мы, як ніколі адчуваем магутную неабходнасьць больш шырокага прыцягненьня мас ва ўсе галіны нашага будаўніцтва. Гэта ўцягненьне мас павінна ісьці па лініі правільнага і поўнага скарыстаньня ўсіх каналаў і прывадных пасоў ад партыі да мас.

Роля масавых арганізацый, роля ўсей масавай работы партыі і яе непасрэднай масава-агітацыйнай работы, такім чынам, набывае вялікае значэньне. Але ня гледзячы на гэта, масава-агітацыйная работа яшчэ і зараз ў нас зьўляецца самым слабым зьвяном усяе нашае партыйнае працы. А слабасьць масавай работы, яе бюракратызацыя вельмі часта і досыць хвараві́та адбіваецца на ўсіх галінах нашае працы. Значная слабасьць масавай работы складае ўмовы для пераражджэньня і разлажэньня працаўнікоў і апарату, для безгас-

падарнасьці, злоўжываньня, дае мажлівасьці разьвівацца контр-рэвалюцыйным праявам, антысэмітызму, нацыяналдэмакратызму і наогул разьвязвае рукі клясаваму ворагу. Яскравым падцьвярджаньнем гэтага зьяўляюцца Добруская справа, справа Баршай і інш.

Масавая агітацыйная работа патрабуе значна большай увагі і да яе палепшаньня павінны быць прыцягнуты ўсе сілы пралетарскай грамадзкасьці. „Мы павінны памятаваць, што павінны прывесьці шматмільённую масу да сузнаньня... Неабходна перавыхаваць масы, а перавыхаваць іх можа толькі агітацыя і прапаганда. Неабходна зьвязваць масы з будаўніцтвам агульнага гаспадарчага жыцьця ў першую чаргу. Гэта павінна быць галоўным і асноўным у працы кожнага агітатара і прапагандыста і калі ён гэта зразумее добра, тады посьпех яго работы будзе забясьпечаны“ (з прамовы Леніна на зьезьдзе палітасьветаў). Гэтая ленінская ўстаноўка зьяўляецца выходнай, ад якой павінны выходзіць усе нашы мерапрыемствы па ажыўленьню і палепшаньню масавай работы.

Сацыялістычнае спаборніцтва павінна зьявіцца асноўным зьвяном, за якое трэба зараз-жа ўхапіцца з мэтай ажыўленьня масавай работы. Па-першае, зьмест апошняй павінен узьнімаць, арганізоўваць масы да сацыялістычнага спаборніцтва ва ўсіх галінах нашага жыцьця, уздымаючы ў іх вытворчую зацікаўленасьць і добрасумленныя адносіны, асабліва з боку адсталых і ўноў уцягнутых колаў рабочых, да выкананьня задач партыі па сацыялістычнаму будаўніцтву у практычнай рабоце на прадпрыемстве. Няма такой нават маленькай галіны работы, дзе-б немажліва або ня трэба было-б ужываць мэтады сацыялістычнага спаборніцтва мас. Само ажыўленьне масавай работы мысьліма толькі на грунце сацыялістычнага спаборніцтва, пры ўмове шырокага разгортваньня самакрытыкі, як мэтаду рашучага выяўленьня ўсіх недахопаў зьверху да нізу і зьнізу да верху. Самакрытыка разам з поўным правядзеньнем унутрыпартыйнай і прафсаюзнай дэмакратыі, з сапраўднай выбарнасьцю партыйных і прафсаюзных арганізацый, з сапраўднай мажлівасьцю замены ўсякага бюро, сакратара і камітэту, ёсьць лепшы сродак барацьбы супроць разлажэньня і пераджэньня апарату, барацьбы з бюракратызмам. Такая самакрытыка ёсьць лепшы сродак супроць работы масавых арганізацый упустую, супроць няўлічэньня запатрабаваньняў мас, зьяўляецца лепшым мэтадам разгортваньня і сапраўднага ажыўленьня масавай работы.

Лёзунг самакрытыкі—магутная зброя бальшавізму ў сучасны момант набывае асаблівае значэньне таму, што задачы разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва „задачы рэканструкцыйнага пэрыяду ня могуць быць вырашаны без самага рашучага, самага пасьлядоўнага ўцягненьня мас у справу са-

цыялістычнага будаўніцтва, праверкі і кантролю з боку гэтых мільённых мас усяго апарату, яго ачышчэньня ад нягодных элемэнтаў“ (з адозвы ЦК УсеКП(б). Таму лёзунг самакрытыкі „зьверху да нізу“, і „зьнізу да верху“ зьяўляецца адным з баявых лёзунгаў дню, рэальнае правядзеньне ў жыцьцё яго дасьць магутны зрух у справе паляпшэньня ўсяе масавае работы, арганізацыя мас навакол выкананьня пяцігадовага пляну вялікіх работ па разгорнутаму будаўніцтву сацыялізму ў нашай краіне—бацькаўшчыне працоўных усяго сьвету.

Асноўным зьвяном, за якое трэба зараз ухапіцца ў справе ажыўленьня масавай работы, ёсьць пытаньне паляпшэньня яе якасьці. Масавая работа не бязмэтавы рух упустую, а магутны сродак арганізацыі мас навакол вялікіх палітычна-гаспадарчых кампаній сучаснага пэрыяду.

Якасьць масавае работы вызначаецца і павінна вызначацца ня колькасьцю праведзеных сходаў з прыняцьцем прыгожых прапазыцый, а канкрэтнымі практычнымі вынікамі ад кожнага мерапрыемства масавай работы.

Паляпшэньне якасьці масавай работы павінна ісьці па лініі значна большага адбіцьця ў ёй палітыкі партыі, увязкі агітацыйнай масавай работы з жыцьцём данага прадпрыемства або вёскі, умелай арганізацыі мас навакол канкрэтных практычных мерапрыемстваў, выплываючых з галоўных задач партыі, дыфэрэнцыяцыі, прыстасаваньня да запытаньняў паасобных груп рабочых з падлікам эканамічна-бытавых, культурных і нацыянальных асаблівасьцяй.

Уся праваджімая масавая работа павінна ісьці побач з жыцьцём, яна павінна сваячасова высьвятляць чарговыя агульна-палітычныя і гаспадарчыя кампаніі (збожжазагатоўкі, калектывізацыя, перазаключэньне калдагавароў, вярбоўка рабочых у шэрагі партыі і інш.), адначасова даваць вычарпальныя адказы на ўзьнятыя запытаньні рабочых і сваячасова рэагаваць на ўсе вакольныя працэсы.

Вялікае месца ў справе ажыўленьня масавай работы будзе займаць пытаньне вытворчай прапаганды — масавая работа абавязана даваць рабочаму, працоўнаму селяніну мажлівасьць падымаць свае тэхнічныя веды, падымаць сваю кваліфікацыю, а гэтым самым паскараць працэс сацыялістычнай рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі.

Усё гэта мажліва пры ўмове перанясеньня цэнтру цяжару ўсяе масавае работы непасрэдна ў цэх, у калгас, саўгас, прыбліжэньне яе непасрэдна да масы, што ў сваю чаргу будзе садзейнічаць лепшай пастаноўцы падліку вопыту праваджімых мерапрыемстваў, настрояў і запытаньняў мас з мэтаю тэрміновага рэагаваньня на іх ува ўсёй рабоце партыі і вызначэньня зьместу далейшае работы.

Для правядзеньня гэтай вельмі важнай і складанай работы неабходны кадры працаўнікоў, здольных праводзіць

гэтую работу, лепшым агітатарам, лепшым масавіком можа быць той, хто побач з добрым разуменьнем палітыкі партыі добра знаёмы і арыентуецца ў мясцовых умовах. Адсюль задача мясцовых арганізацый — вылучэньне і падбор гэткіх людзей, рабочых ад варштату, парабкоў, сялян калгасьнікаў, праводзячы з імі сыстэматычную работу па ўзьняцьцю іх палітычных ведаў. Заслугоўвае ўвагі практыка арганізацыі раённых курсаў агітатараў-масавікоў на прадпрыемствах пры Кастрычнікаўскім і Фрунзэўскім Райкомах.

Агітацыйна-масавая работа ў сучасных абставінах зьяўляецца адным з магутных сродкаў у справе арганізацыі партыйных мас для барацьбы супроць усякіх хістаньняў і ўхілаў і асабліва правага ўхілу і прымірэнцтва, канкрэтных праяў і насіцеляў гэтых ухілаў для далейшага больш рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі. Ва ўмовах БССР набывае вялікую важнасьць пытаньне арганізацыі мас для барацьбы за ленінскую лінію на ідэолёгічна-культурным фронце і ў правядзеньні нацыянальнай палітыкі, клясава-палітычны зьмест масавай работы, узмацняе пазыцыі пралетарыяту ў заядлай клясавай барацьбе, якая адбываецца ў сучасны момант.

З надыходам зімы партарганізацыі павінны кінуць сілы і сродкі на падняцьцё адстаючага фронту партыйнае работы. Лепшая агітацыйна-масавая работа з неаслабным партыйным кіраўніцтвам, забясьпечыць арганізацыю мас навакол поўнага і своечасовага выкананьня пяцігадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва.

**Варончанка.**

---

## Плян дакладу аб ітогах VI Усесаюзнай Канфэрэнцыі УсеЛКСМ.

УВОД.

### Асноўныя рысы міжнароднай і ўнутранай абстаноўкі.

а) У галіне міжнароднай: абвастрэньне супярэчнасьцяй паміж капіталістычнымі краінамі, рост пагрозы новай імпэрыялістычнай вайны, узброенага нападу на СССР, нарастаньне рэволюцыйнага ўздыму, „палявеньне“ рабочае клясы, як зьявішча, падкрэсьліваючыя шаткасьць і нямоцнасьць стабілізацыі капіталізму.

б) У галіне ўнутранай: посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва, разгортваньне рэконструкцыйнага пэрыяду, пераможнае наступленьне пролетарыяту на капіталістычныя элемэнты і перарабленьне дробнатаварнага сэктару (выкарчоўваньне карэньняў капіталізму) — супраціўленьне клясавых ворагаў і абвастрэньне клясавай барацьбы як вынік гэтага.

У гэтых умовах VI канфэрэнцыя ЎсеЛКСМ вызначыла асноўныя шляхі работы комсамолу ў рэконструкцыйны пэрыяд, вызначаючыяся ў асноўных рысах, як задачы няпрымірымай барацьбы з ухіламі ад генэральнай лініі партыі і асабліва з правым адкрыта опортуністычным ухілам і прымірэнствам да яго, рашучай барацьбы з клясавым ворагам „штодзённа, шточасна“, уцягненьня ў актыўную клясавую барацьбу шырокіх пластоў моладзі, пашырэньня ўдзелу ЎсеЛКСМ, моладзі ў соцыялістычным будаўніцтве, выкананьня пяцігадовага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі краіны.

Асноўны сэнс усіх рашэньняў VI канфэрэнцыі заключаецца ў тым, што канфэрэнцыя ў асноўных рысах вызначыла шляхі саюзнага будаўніцтва, уздым клясавай боездольнасьці і ідэйна-політычнага ўзроўню ЎсеЛКСМ і задачы клясавага комуністычнага выхаваньня моладзі ў рэконструкцыйны пэрыяд.

ЛІТАРАТУРА:

Рудзутак. Рэконструкцыйны пэрыяд і нашы задачы (даклад на VI канфэрэнцыі ЎсеЛКСМ), выд. „Молодая Гвардия“.

*Канфэрэнцыя абгаварыла наступныя пытаньні:*

1. Агульнаполітычны даклад ЦК УсеКП(б).
2. Даклад ЦК УсеЛКСМ. Садаклад ЦБ ДКА.
3. Даклад КІМ‘у.
4. Задачы комсамолу ў соцыялістычнай перабудове вёскі.
5. Аб удзеле комсамолу ў рабоце профсаюзаў.

**Пройдзены шлях.**

Рашэньні XIV партзьезду адзначылі неадпаведнасьць паміж зьместам, формамі і мэтадамі работы КСМ і здаровымі запатрабаваньнямі моладзі.

Пройдзены этап разьвіцьця ЎсеЛКСМ характарызуецца агульным ідэйна-політычным ростам саюзу, узмацненьнем аўтарытэту ЎсеЛКСМ у масах працоўнай моладзі, пашырэньнем удзелу ЎсеЛКСМ у грамадзка-політычным жыцьці, ростам самадзейнасьці, творчасьці і ініцыятывы (культпаход, соцспаборніцтва, паход за ўраджай), ізжываньнем не адпаведнасьці паміж зьместам, формамі і мэтадамі работы КСМ і здаровымі запатрабаваньнямі моладзі.

Гэтага саюз дасягнуў у выніках:

1) ідэйна-няпрымірымай барацьбы з ўхіламі ад гэнэральнай лініі партыі;

2) цьвёрдага курсу на ўвязку і падчыненьне асабістых і групавых інтарэсаў моладзі інтарэсам клясы і ўцягненьня мас у грамадзка-політычную работу;

3) разгорнутага фронту барацьбы з клясавым ворагам і барацьбы за моладзь;

4) перабудовай сыстэмы работы па-новаму на падставе канкрэтнага кіраўніцтву і разгортваньня ініцыятывы комсамольцаў (ініцыятыўныя ядры, групы, любіцелі-організатары, мэтад заданьняў).

## ЛІТАРАТУРА.


А. Косарев. Комсамол на арэне клясавых баёў. (Даклад на VI канфэрэнцыі), выд. „Молодая Гвардия“.


## Рэконструкцыйны пэрыяд і задачы комуністычнага выхаваньня моладзі.

1. Пяцігадовы плян — канкрэтная програма соцыялістычнай рэконструкцыі краіны. Асноўныя ўстаноўкі пяцігадовага пляну. Росту вядучай цяжкай прамысловасьці. Соцыялістычная перабудова вёскі (колектывізацыя, саўгасы, тэхнічная рэконструкцыя, новыя формы смычкі). Соцыяльна-клясавыя зрухі: рост рабочае клясы, зьмены ў складзе рабочай моладзі, павышэньне матар'яльна-культурнага ўзроўню. Узмацненьне позыцый пролетарыяту ў горадзе і на вёсцы. Актывізацыя бядняцка-серадняцкіх мас у барацьбе з кулаком. Культурная пяцігодка.

2. Канкрэтныя задачы комсамолу. Задачы па выкананьню пяцігодкі. Соцыялістычнае спаборніцтва (рацыяналізацыя, тэхнічная пісьменнасьць моладзі), паход за ўраджай (колектывізацыя, канкрэтныя меры па уздыму ўраджайнасьці). Грамадзка-політычная работа (саветы, коопэрацыя, дабраахвотныя т-вы).

3. Наступленьне пролетарыяту на капіталістычныя элемэнты. Спробы клясавага ворага перайсьці ў контр-наступленьне на эканамічным і ідэолёгічным франтох (хлебная стачка, шкодніцтва, рэлігія, мастацтва, літаратура і г. д. Абвастрэньне клясавай барацьбы, барацьба за моладзь (сэктанцтва, ВНУ, школа і г. д.).

4. Цяжкасьці соцыялістычнага будаўніцтва і абвастрэньне клясавай барацьбы выклікалі хістаньні сярод рабочае клясы і партыі. Сутнасьць правага ўхілу. Барацьба з правымі ўнутры партыі з націскам дробна-буржуазнай стыхіі.

5. Асновы комуністычнага выхаваньня. Характарыстыка паасобных груп моладзі на прадпрыемствах і на вёсцы. Мобілізацыя мас моладзі на соцыялістычнае будаўніцтва, рэконструкцыю (соц. спаборніцтва, паход за ўраджай). Вывесьці масы моладзі на арэну клясавай барацьбы ў галіне экономікі і ідэолёгіі. Барацьба з аполітычнасьцю, голым

культурніцтвам, нацыянальнай абмежаванасьцю, мяшчанствам, індывідуалізмам, рвачаствам, абывательшчынай.

6. Тэхнічная рэконструкцыя і кадры. Тэхнічная асьвета мас моладзі. Вытворчая і тэхнічная прапаганда. Соцыялістычная перабудова вёскі і проблема кадраў.

7. Праца і адукацыя рабочай моладзі, соцыялістычная організацыя працы моладзі. ФЗВ—аснова падрыхтоўкі новых кадраў рабочых і абхоп ФЗВ ўсёй броні моладзі. Патаненьне ФЗВ і прыстасаваньне зьместу работы ФЗВ да запатрабаваньняў рэконструкцыйнага пэрыяду.

Павялічэньне норм броні. Роля ЦІП-у у падрыхтоўцы рабочай сілы. Сыстэма вячэрнай і нядзельнай асьветы. Комсамол і профсаюзы.

## ЛІТАРАТУРА:

А. Косарев—та-же книга.
Рудзутак—та-же книга.
Даклады т. Овчинникова и Сегала („Комсомольская Правда").

### Чарговыя задачы саюзнага будаўніцтва.

1. Задача прыстасаваньня зьместу, форм і мэтадаў работы КСМ да умоў рэконструкцыйнага пэрыяду. Пагроза неадпаведнасьці зьместу, форм і мэтадаў работы КСМ з умовамі рэконструкцыі.

2. Асноўная ўстаноўка работы—павышэньне ідэйна-палітычнага ўзроўню, клясавай бояздольнасьці ЎсеЛКСМ і пашырэньне ўдзелу ў будаўніцтве соцыялізму (рацыяналізацыя, соцыялістычная перабудова вёскі).

3. Барацьба партыі на два фронты і задачы ЎсеЛКСМ. Барацьба з „левай" фразай, рэшткамі трацкізму. Асноўны агонь па праваму адкрыта опортуністычнаму ўхілу, як галоўнай небясьпецы ў даны пэрыяд.

Праявы правай небясьпекі і опортунізму ў комсамольскай рабоце. Больш шырокая, чымся ў партыі, соцыяльная база і малы вопыт рэволюцыйнай барацьбы—аснова для праяў правага ўхілу ў КСМ ва ўсіх яго выглядах (недаацэнка клясавай барацьбы, недаацэнка калгаснага і саўгаснага будаўніцтва, недаацэнка неабходнасьці хуткага тэмпу індустрыялізацыі, раўненьне па „узким местам" і інш.). Тэорыя перавыхаваньня кулака ў саюзе. Прымірэнства да скажэньняў клясавай лініі (Астрахань). Недаацэнка ролі батрака, бедняка ў саюзе. Прымірэнства да бюракрата. Падбор людзей (Новарасійск). Штампоўшчыкі і аллілуйшчыкі ў актыве саюза.

4. Дзелячэства—бяспрынцыпнасьць, адсутнасьць клясавай цэлеўстрамлённасьці ў практычнай рабоце—опортунізм. Дзе-

лячэства—адна з праяў правага ўхілу ў КСМ. Небясьпека пераацэнкі і недаацэнка дзелячэства. Няправільнасьць тэндэнцый падмены барацьбы з правым ухілам барацьбой з дзелячэствам. Сумясьціць „расейскі рэволюцыйны размах з амэрыканскай дзелавітасьцю". Задачы барацьбы з правай нэбясьпекай у КСМ.

5. Задачы клясавага комуністычнага выхаваньня моладзі і клясавае афармленьне саюзу. 100% рабочай моладзі ў КСМ. Актывізацыя нізавых зьвеньняў саюза. Чыстка саюза. Дабіцца перавагі батрацкай і бядняцкай моладзі ў складзе вясковых ячэек. Затрыманьне роста за лік серадняцкай часткі моладзі, прыём толькі праверан‌ых.

6. Перабудова работы саюза. Падпарадкаваць перабудову работы задачам клясавай барацьбы і ўдзелу ў рэконструкцыі гаспадаркі краіны. Задача ахапіць усе галіны работы новай сыстэмай работы. Скажэньні новай сыстэмы: пагоня за формай, зажым ініцыятывы, некрытычны падыход да формы работы.

7. Дабраахвотнасьць, ініцыятыва і абавязацельства. Барацьба з анархічным разуменьнем абавязацельств і спробамі бюрократычнай рэглямэнтацыі. Практыку заданьняў падпарадкаваць росту ініцыятывы і творчых сіл саюза. Барацьба з двумя скажэньнямі ў практыцы работы:

а) агульвым адмаўленьнем мэтада заданьняў;

б) падменай заданьнем ініцыятывы і творчасьці мас.

8. Канкрэтнае кіраўніцтва. Насычэньне кіраўніцтва ідэйна-палітычным размахам. Скарачэньне плятнага апарату, прыцягненьне мас да кіраўніцтва. Дэмократыя і самакрытыка ў саюзе.

9. Ускладненьне запатрабаваньняў, прад'яўляемых саюзу і кіраўніцтву. Тэорэтычны рух, палепшаньне палітычнай адукацыі—неабходныя умовы падвышэньня ідэйнай якасьці і размаха саюзнай работы і кіраўніцтва.

10. Задачы палепшаньня парткіраўніцтва.

ЛІТАРАТУРА:

А. Косарев.—Та-же книга.

**Комуністычнае выхаваньне дзяцей.**

1. Рашэньні VIII зьезду ня выкананы. У рабоце ДКА ёсьць толькі частковы зрух. Разрыў паміж задачам ДКА, організацыйным абхопам дзяцей, практыкай работы піонэр. атрадаў і запатрабаваньнямі з боку дзяцей.

2. Абвастрэньне клясавай барацьбы і барацьбы за ўплыў на дзяцей.

3. Асноўнае ў комвыхаваньні дзяцей: прыцягненьне іх да вырашэньня задач соцбудаўніцтва, прыстасаваньне форм, мэтадаў работы да задач клясавай барацьбы на падставе:

разьвіцьця творчай ініцыятывы, самадзейнасьці, разгортваньня культурна-выхаваўчай работы, павялічэньня ў бліжэйшы час піонэр. арганізацыі.

4. Піонэр. організацыя — організацыя дзяцей. Асноўны ўпор на разгортваньне ініцыятывы і творчасьці дзяцей на „ператварэньне руху ў самадзейную комуністычную дзіцячую організацыю". Барацьба з спробамі ператварыць піонэр. організацыю ў організацыю для дзяцей бюрократызацыяй кіраўніцтва.

5. Пытаньні кіраўніцтва. Увага падбору павадыроў. Выбарнасьць павадыра ячэйкі КСМ. Ініцыятыўныя групы з камсамольцаў для дапамогі ЮП. Задачы ўсесаюзнага зьлёту ЮП.

6. Палепшаньне эканом-прававога становішча дзяцей. Барацьба з парушэньнем працоўнага законадаўства.

7. Будаўніцтва політэхнічнай школы. Удзел піонэр. організацый ў школьнай рабоце. Па-за школьная работа.

8. Барацьба за пролетарскую ідэолёгію ў дзіцячай літаратуры, кіно, мастацтве.

## Сусьветны комсамол.

1. Агульныя абставіны работы КІМ—рост супярэчнасьцяй капіталізму, які падкрэсьлівае няпрочнасьць і шаткасьць стабілізацыі капіталізму, абвастрэньне клясавай барацьбы, палявеньне мас рабочай моладзі.

2. Барацьба з опортунізмам. Организацыя мас на клясавую барацьбу КІМ-а і праціўнікі.

3. Рост боздольнасьці КІМ'а. Пашырэньне і ўзмацненьне міравой організацыі КІМ'а, медленасьць і недастатнасьць падрыхтоўкі павароту комсамолаў у бок масавай дзейнасьці праходзіць слаба. Барацьба з коснасьцю і соцыял-дэмократычнымі перажыткамі ў паасобных сэкцыях КІМ-у.

4. УсеЛКСМ і КІМ. Задачы пашырэньня ўдзелу УсеЛКСМ у міжнароднай рабоце.

5. Інтэрнацыянальнае выхаваньне і работа ў КСМ.

6. Правядзеньне Чырвонага дню, МЮД-у і 10-годзьдзя КІМ-а—ударная задача моманту.

### ЛІТАРАТУРА:

Даклад т. Хітарава на VI канфэрэнцыі УсеЛКСМ („Комсомольская Правда").

Гэты плян можна некалькі спрасьціць зьняцьцем разьдзелу „Увод". У гэтым выпадку патрэбна даклад пачаць з характарыстыкі пройдзенага саюзам шляху.

Таварышам, якія карыстаюцца гэтым плянам, патрэбна мець на ўвазе, па-першае, неабходнасьць асаблівага высоўваньня ў дакладзе тых пытаньняў, якія найбольш будуць

цікавіць ячэйку (напрыклад на вёсцы канкрэтныя задачы комсамолу ў соцыялістычнай перабудове вёскі), па-другое, пажаданасьць падмацаваньня дэтальных палажэньняў мясцовымі фактамі, прыкладамі, лічбамі.

У сувязі з тым, што ў сучасны момант вышла яшчэ вельмі мала літаратуры аб канфэрэнцыі, пры падрыхтоўцы даклада патрэбна будзе карыстацца матар'ялам скарочаных дакладаў і спрэчак, зьмешчаных у „Комсамольскай Праўдзе“ з 18 па 30 чэрвеня г. г.

---

*Зьвяртаючы увагу парторганізацыі на ніжэй надрукаваны дагавор аб социялістычным спаборніцтве на лепшую пастаноўку партасьветы паміж Баўманскім і Пролетарскім раёнамі г. Масквы, прапануем абгаварыць пытаньне аб социялістычным спаборніцтве паміж асобнымі Акругкомамі, Райкомамі, ячэйкамі, асобнымі школамі, групамі і нават асобнымі навучаючыміся.*

## ПРОЭКТ ДАГАВОРУ

аб социялістычным спаборніцтве на лепшую пастаноўку партыйнае асьветы паміж Баўманскім і Пролетарскім раёнамі.

Для выкананьня пяцігадовага пляну „вялікіх работ"— праграмы разгорнутага социялістычнага наступленьня, неабходна ідэёвая моц партыі, няўхільная барацьба з опортуністычнымі хістаньнямі, асабліва з правым ухілам, як з галоўнай небясьпекай сучаснага перыяду.

Задачы разьвіцьця ўнутры-партыйнай дэмократыі, найбольш поўнага разгортваньня самакрытыкі і барацьбы з бюрократызмам з асаблівай вастратой высоўваюць неабходнасьць падвышэньня тэорэтычнага ўзроўня членаў партыі.

Партыя прыдае вялізарнае значэньне рэволюцыйнай тэорыі і практычна ставіць перад сабою задачу зрабіць тэорыю Маркса—Леніна сапраўднай уласнасьцю шырокіх мас.

Усё гэта патрабуе рашучага павароту ў пастаноўцы масавай партыйнай асьветы.

1. Для дасягненьня гэтага павароту ў пастаноўцы партасьветы Баўманскі РК выклікае Пролетарскі РК на социялістычнае спаборніцтва на лепшае кіраўніцтва і пастаноўку масавай партасьветы ў 1929-30 г.

У спаборніцтве паміж указанымі раёнамі ўключаецца як работа па комплектаваньні сеткі, так і якасьць самой вучобы ў прадстаячым навучальнем годзе.

Устанаўліваючы тэрмін догавару з жніўня 1929 г. да чэрвеня 1930 г., Райкомы абавязваюцца:

1) Дабіцца ўцягненьня 60% партыйнай організацыі ў існуючыя формы навучаньня.

2) Уцягнуць у сетку партасьветы 50% беспартыйных рабочых к ліку комуністых данага прадпрыемства, якія вучацца.

3) Падвоіць у параўнаньні з 1928-29 г. колькасьць вучняў у сеці партасьветы і жанчын работніц.

4) Паставіць растлумачальную работу пры камплектаваньні сеткі партасьветы і агітацыю за вучобу так, каб ахапіць ею кожнага рабочага і работніцу і скарыстаць для гэтай кампаніі ўсе існуюцыя на прадпрыемствах формы партыйнай і культурна-масавай работы.

5) Дамагчыся сапраўднага правядзеньня прынцыпу дабраахвотнасьці вучобы, вядучы рашучую барацьбу з усімі скажэньнямі і парушэньнямі гэтага прынцыпу.

6) Дабіцца поўнага ахопу партвучобай кандыдатаў УсеКП(б), ня маючых элементарнай палітычнай падрыхтоўкі.

7) Дабіцца найбольшага здавальненьня патрабаваньняў мас шляхам павялічэньня ў сетцы найбольш гібкіх форм партыйнай асьветы: а) зьвязваючы палітвучобу з агульна-адукацыйнай б) гурткоў па асобным проблемам, в) гурткоў бягучай палітыкі, г) газэтных гурткоў, д) гурткоў па вывучэньні першакрыніц.

8) Дабіцца пагалоўнага ўцягненьня ў 1929-30 г. партыйнага (ячэйковага і раённага) актыву ў вучобу.

9) Найлепшым чынам прыстасаваць партвучобу да ўмоў прадпрыемства шляхам стварэньня зьменных школ, школ у цэху і г. д.

10) Скончыць камплектаваньне сеткі не пазьней 8-га верасьня.

11) З мэтай забесьпячэньня сапраўднасьці партвучобы, удзел сеткі партасьветы ў разьвіцьці самакрытыкі і ў барацьбе з бюрократызмам праводзіць усю вучобу на падставе практычнай работы слухачоў, увязваючы выкладаньне тэорыі з практыкай, зацікаўленасьцю рабочых, данага прадпрыемства і з пытаньнямі бягучага палітычнага жыцьця.

12) Давесьці да канца 1929-30 г. колькасьць рабочых прапагандыстых да 20% у адносіне да агульнай колькасьці прапагандыстых раёну.

13) Дабіцца сыстэматычнай рэгулярнай работы пропколектываў і ўцягненьня ў пропколектывы ўсіх прапагандыстых раёну.

14) Паставіць работу пропколектываў так, как здаволіць як мэтадычныя, так і тэорэтычныя запатрабаваньні прапагандыстых розных форм і відаў партасьветы. Праводзіць усю работу пропколектываў на падставе бягучых палітычных задач і практычнай работы прапагандыстых у школе.

15) Абсьледваць сіламі кваліфікаваных інструктароў у прадстаячым навучальным годзе ня менш 50% сеткі партасьветы.

16) На падставе сапраўднага палепшаньня якасьці партыйнай вучобы дабіцца ня менш 75% наведваньня школ.

17) Не дапусьціць адсева з сеткі партыйнай асьветы больш 15%.

18) З мэтай палепшаньня кіраўніцтва комсамолам, забясьпечыць комсамольскія організацыі работнікамі для мэтадычнай і інструктарскай работы. Абсьледваць партыйнымі сіламі ня менш 15% комсамольскай сеткі палітвучобы.

19) Дабіцца ўнясеньня элемэнтаў палітвучобы за ўсю агульнаадукацыйную сетку, у вытворчыя гурткі і. г. д., організаваўшы сыстэматычнае нагляданьне за пастаноўкай палітвучобы ў гэтай сетцы.

20) Абслужыць кваліфікаванымі прапагандыстымі-масавікамі жаночыя дэлегацкія сходы. Абсьледваць у прадстаячым годзе ўсе дэлегацкія сходы раёну.

21) Уцягнуць у партыю ня менш 40% беспартыйных рабочых, якія вучацца ў сетцы партасьветы.

22) Уступаючы ў спаборніцтва, Райкомы абавязваюцца інфармаваць адзін другога аб ходзе работы і шырока інфармаваць парторганізацыі і рабочых абодвух раёнаў аб гэтым спаборніцтве.

*Пленум Бауманскага Райкому УсеКП(б).*

---

# На мясцох.

## Як ідзе падрыхтоўка партвучобы на шклянай гуце.

Агульны партыйны сход шклянай гуты „Пралетар“ абгаварваў пытаньне аб сыстэме партыйнай асьветы на 29—30 навучальны год на заводзе.

Якія ўрокі магчыма вынесьці з тых спрэчак, якія разгарнуліся навокал гэтага пытаньня на сходзе? Па-першае— актыў заводу як партыйны, гэтак і беспартыйны, а таксама і шэраговыя партыйцы і камсамольцы маюць вялікае імкненьне да вучобы, але ўмовы працы не даюць магчымасьці гэтым таварышам займацца.

З 15 чалавек (30% прысутных на сходзе партыйцаў) 9 чал. выказалася, іменна, па гэтаму пытаньню. Прычым, пастаноўка пытаньня зусім ясная. „мы жадаем вучыцца, але не пакінуць жа працы дзеля таго, каб пайсьці ў школу, а калі я вольны ад працы, дык тады школы няма“. Альбо— „Сунуўся я ў мінулым годзе ў Камвуз: раз прышоў на заняткі, другі раз, потым тыдзень працаваў з 5-ці гадзін;— на заняткі пайсьці ня змог; тыдзень працаваў з 11-ці гадзін,—таксама на заняткі ня пойдзеш, а праз 2 тыдні прыйшоў на заняткі і глядзеў, як баран на новую браму. Альбо яшчэ—„Асабліва дрэнна справа з рабочай асьветай. Якая-ж гэта рабочая асьвета? Калі гавораць аб пераходзе на бесьперарыўны тыдзень, а яна і вухам не вядзе, каб прыстасавацца да гэтых новых умоў“.

Магчыма было-б падаць яшчэ шмат выступленьняў, але і прыведзенае кажа аб тым, што над гэтым пытаньнем трэба задумацца, і ня толькі ў рэзалюцыях, але і ў практычным разгортваньні сеткі.

Па другое—заняткам вельмі многа перашкаджае нагрузка рознымі сходамі і абавязкамі. Якое выйсьце некаторыя члены ячэйкі прапануюць—„Каб актывісты не адрываўся ад грамадзкай працы і ад практычнага жыцьця заводу, неабходна... абмежавацца адным днём заняткаў у тыдні (паміж іншым, гэткія настроі маюцца ня толькі на шклянай гуце).

Ці зьяўляецца гэткая прапанова выйсьцем з становішча. Зразумела, што не. Выйсьце можна знайсьці толькі тады, калі правільна разьмеркаваць усю працу на заводзе, хоць-бы *прыблізна* раўномерна (мы аб гэтым гаворым ужо даўно

і шмат, але робім мы вельмі мала); калі ўвесьці жорсткую плянавасьць і, самае галоўнае, калі ўвязаць усе пляны паміж сабой; калі заняткі ўвязаць з практычнай працай і штодзённым жыцьцем. Аб гэтым таксама гаварылася вельмі многа, але... „У працы нашае школы (ячэйкі шклянай гуты) маецца той недахоп, што мы не прапрацавалі ў школе калумоў, не дапамаглі нашай працай перавыбарам Гарсавету, ФЗК, парт'ячэйцы і г. д. і г. д.". „Кіруючыя органы зрывалі нам заняткі, прапануючы прапрацоўваць практычныя пытаньні" (?) і іншыя гэткія выступленьні. Які адгэтуль вывад? Школа на прадпрыемстве павінна быць пабудавана такім чынам, каб яна працавала 3 разы ў тыдзень (бо чым яна горш раённай школы), і дала тыя-ж веды, што і раённая школа, вядома з тае перавагай, што яна на месцы і прыстасавана да зьмен і працы заводу. Ці варта аб гэтым гаварыць. Варта і нават неабходна, бо ў нашай ячэйцы зрабілі так, што ні нашым ні вашым. Ні раз і ні 3 разы ў тыдзень а 2 разы ў тыдзень, а у іншых ячэйках, дзе ёсьць школы нават правалілі і гэтую прапанову і пакінулі толькі адзін раз у тыдзень (у нядзелю). Трэба выканаць постанову аб адвядзеньні ня менш 1/3 часткі заняткаў на прапрацоўку практычных пытаньняў.

Наступнае пытаньне абгаварвалася аб падручніках і аб матар'ялах як для кіраўніка, гэтак і для слухача. Калі для кіраўніка мы маем некаторыя мэтадычныя ўказаньні аб мэтадах увязкі працы з сучаснасьці, то ў нас яшчэ няма гэткага матар'ялу *для слухача*. Тут, галоўным чынам, віноўны мэтадычныя сэмінары, якія не даюць пэўных указаньняў, кіраўніком, як выкарыстаць газэту і бягучую літаратуру для тэмы, якая вывучаецца, а сам прапагандысты ня здолеў гэтага зрабіць. Было-б вельмі добра, калі-б магчыма было выдаць шэраг брашур па форме „простыя гутаркі".

Шмат гаварылася аб правядзеньні спаборніцтва на лепшае ўкамплектаваньне сеткі і лепшую пастаноўку працы ўва ўсей сыстэме. Нават прапанавана фракцыя ФЗК адшукаць сродкі дзеля прэміраваньня лепшай пастаноўкі працы. Яшчэ гаварылася аб пастаноўцы працы з рабочымі прапагандыстымі. На падрыхтоўку гэтых таварышоў акругкомам выдадзена звыш 10.000 руб. На саміх курсах зьвярталася вельмі многа ўвагі на невыстарчальнасьць аднаго месяцу дзеля падрыхтоўкі прапагандыстага і неабходнасьці на працягу ўсяго году паглыбляць свае веды. Між тым, прайшло ўжо каля 1½ месяца пасьля сканчэньня курсаў, і ні ячэйкай, ні райкомам гэтыя таварышы не накіраваны на прапагандысцкую работу. Акругком ня склікаў іх дзеля абгаварэньня пытаньня аб іх удзеле ў справе камплектаваньня сеткі, а партгабінэт на падставе гэтага не разгарнуў з імі ніякай працы.

Нашая ячэйка ўжо даўно не бачыла гэткай актыўнасьці на сходзе (бо калі-б далі слова, выказалася-б яшчэ столькі таварышоў). Гэта кажа аб тым, што база дзеля разгортваньня партыйнай і рабочай асьветы вельмі вялікая, што калі ў гэтым годзе ня будзе добра арганізавана вучоба, гэта будзе паказваць на няўменьне выкарыстоўваць момант, няўменьне прыстасавацца да ўмоў рабочых, няўменьне з боку нізавых партыйных арганізацый кіраваць пастаноўкай партыйнай і рабочай асьветы.

П. В.

---

## Ячэйка шчацiншчыкаў абгаварвае партвучобу.

На апошнім агульным сходзе ячэйкі шчаціннай фабрыкі абгаварвалася пытаньне аб партвучобе.

Гэтае пытаньне выклікала вялікую зацікаўленасьць з боку ўсіх удзельнікаў сходу. Выявілася вялікае імкненьне да вучобы. Выступаўшыя таварышы ўказвалі на тое, што популярызацыя вучобы пачалася вельмі позна. Трэба было-б вывесіць правілы прыёму ў розныя навучальныя ўстановы.

Партвучоба і наогул вучоба павінна стаць ня толькі справай займаючыхся, але ўсёй ячэйкі. Прыводзілі факты, калі склікаліся розныя паседжаньні і сходы ў часе заняткаў. На протэсты займаючыхся адказвалі, што „вучоба—гэта ваша асабістая справа, а сходы—партыйная“.

Сход пастанавіў даручыць агітпромкамісіі ў працягу бліжэйшых дзён правесьці камплектаваньне сеткі партвучобы, популярызуючы яе праз індывідуальныя гутаркі, ў насьценгазэце і г. д., не дапушчаючы ніякіх паседжаньняў і сходаў у тыя часы, калі праводзяцца заняткі.

У залежнасьці ад выяўленых запатрабаваньняў будзе вырашана пытаньне аб тым, якія школы ці гурткі павінны быць створаны на фабрыцы.

Сябра ячэйкі.

---

## На што трэба зьвярнуць увагу Аршаншчыне.

ЦК КП(б)Б у пастанове Ўсебеларускай АПО-нарады ўказаў, як павінна прахадзіць падрыхтоўчая праца да камплектаваньня сеткі партвучобы і сама партыйная вучоба. Але на мясцох ужо маецца шэраг пакрыўленьняў у практычным выкананьні дырэктыў партыі па пытаньню партвучобы.

У Аршанскай акрузе падрыхтоўчая праца распачалася пасылкай абежніка. Трохі спусьця быў дасланы другі абежнік, а потым ужо па ініцыятыве т. Бутара была склікана нарада актыву па пытаньню партвучобы. Але галоўнае было

прапушчана. З самага пачатку падрыхтоўчая праца ня была пастаўлена на рэйкі соцыялістычнага спаборніцтва. Рэзалюцыі ЦК КП(б)Б аб партвучобе на 1929/30 навучальны год не зрабіліся дастаяньнем шырокіх партыйных мас, а і да гэтага часу ляжаць пад вялікім наносам канцалярскай пылі сярод кіпы непатрэбных папер у шкафах тэхнічных сакратароў. Як прыклад, на чыгуначным вузьле аб існаваньні рэзалюцыі ЦК КП(б)Б, зьмешчанай у „бюлетэні", сакратары і прапагандысты даведаліся толькі 10 верасьня на нарадзе пры чыгун. калектыве. Некаторыя ячэйкі чыгун. вузла вызначалі камісіі з трох асоб, якім даручалі праводзіць рэгістрацыю партыйцаў, жадаючых займацца. Ніякай растлумачальнай працы не правеўшы, ня ставіўшы пытаньня на парт. і агульных рабочых сходах, камісіі пачалі рабіць рэгістрацію Адна з гэтых камісій ячэйкі цягі запісала аж 60 асоб. Не прайшло і тыдню, як частка ўжо пачала выпісвацца, а пры распачатку працы школ бясспрэчна, што вялікі процант запісаўшыхся так хутка адсеецца, як і хутка запісывалася.

Ячэйка Асінбуду зусім яшчэ і ня прыступіла да камплектаваньня. Сярод асобных прапагандыстых маецца зусім памылковае разуменьне дабраахвотнасьці партвучобы. Ня ўцягнуты пропагандыстыя у работу па камплектаваньню.

Партвучоба на насу, пачынаем камплектаваньне, а прапагандыстыя яшчэ зараз ня вызначаны і ня будуць прымаць ніякага ўдзелу ў падрыхтоўчай працы ў самым камплектаваньні.

На вёсцы амаль што нічога ня зроблена. Праўда, асобныя Райкомы намячаюць скліканьне Пленумаў, дзе будуць абгаварваць пытаньні партвучобы. Мне здаецца, што важнасьць належнай пастаноўкі партвучобы на вёсцы, як гэта паказала чыстка партыі, факты пакрыўленьня клясавай лініі патрабуюць, паміма адных толькі дакладаў, зрабіць масавую вылазку гарадзкіх прапагандыстых у вёску для практычнай організацыі справы партвучобы на зіму, пераносячы асяродак цяжкасьці яе непасрэдна ў калгас і саўгас. Маецца і яшчэ цэлы шэраг недахопаў (у прыватнасьці і зараз яшчэ невядома, калі будуць падручнікі). Адно толькі яскрава, што трэба пасіліць тэмп падрыхтоўчае працы, выправіць недахопы на хаду, як мага глыбей азнаёміць парторганізацыю з грунтоўнымі палажэньнямі партвучобы ў 1929-30 г. Выкананьне чарговых задач партыі па соцыялістычнаму будаўніцтву, якія намечаны пяцігодкай, рашучае наступленьне на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, неабходнасьць бязьлітаснай барацьбы з праявамі правага ўхілу і прымірэнцтвам у тэорыі і практыкі ва ўсіх галінах нашага будаўніцтва, патрабуюць ад нашай парторганізацыі ўзмоцненай увагі да партвучобы і кіраўніцтва ёю.

**Прапагандыст.**

## СЬПІС ЛІТАРАТУРЫ,

якая выдаецца Белдзяржвыдавецтвам да новага навучальнага году.

1. Азбука ленінізма—для гораду. Кержанцава і Леонцьева. Перакладзена з 2-га выданьня і прыстасавана да мясцовых умоў Раманчука. Выйдзе ў 2-й палове верасьня.

2. Азбука ленінізма для вёскі. Альховага. Апрацована Гурыновічам. Выйдзе двумя часткамі: першая частка—у першай палове кастрычніка.

3. Палітэканомія. Астравіцянава і Лапідуса. Перакладзена Каганам. Выйдзе ў кастрычніку,

4. Падручнік для комсамольскіх школ палітграматы для вёскі. Выйдзе ў другую палову верасьня.

5. Падручнік для комсамольскіх школ палітграмоты для гораду. Выйдзе ў першую палову кастрычніка.

6. Гісторыя партыі. Яраслаўскага. Першая частка выходзіць у другую палову верасьня.

7. Для гурткоў па ленінізму падручніку няма. Прыдзецца ўжываць „Пытаньні ленінізму“ Сталіна і адпаведны матар‘ял з твораў Леніна.

Паміма гэтага, як у часопісу „У дапамогу партвучобе“, так і ў часопісу „В помощь партучобе“ будуць зьмяшчацца адпаведныя дадатковыя матар‘ялы як для адзінай школы палітграматы, так для савпартшкол і прадметных гурткоў.



# ЗЬМЕСТ

